**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

2 (562) 13 студзеня 2011 года

Кошт свабодны.





Глыбокае. Каток ля возера Кагальнае. *Фота Ул. Скрабатуна*



Телефон даверу ўстановы «Віцебскае абласное ўпраўленне МНС Рэспублікі Беларусь: 8(0212) 47-78-16.

**МНС інфармуе:**
(на 11.01.2011)

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 57;
Гібель людзей – 9, з іх дзяцей – няма;
Урон – 144 000 000 руб.;

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей – няма;
Урон – 33 000 000 руб.

# Ïðýì³³ “Çà äóõî¢íàå àäðàäæýííå” àòðûìàë³ àðõ³åï³ñêàï Ïîëàöê³ ³ Ãëûáîöê³ Ôåàäîñ³é ³ ³ãóìåííÿ Å¢äàê³ÿ

■ Яна Ільіна, паводле БелТА

**Сярод лаўрэатаў прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" за 2010 год – архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій і ігумення Еўдакія, настаяцельніца Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра ў Полацку.**

Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій (Більчанка Павел Захаравіч) атрымаў прэмію "За духоўнае адраджэнне" "за актыўную духоўна-асветніцкую дзейнасць, значны ўклад у захаванне міжканфесійнага міру і нацыянальнай згоды". Ігумення Еўдакія (Ляўшук Любоў Пятроўна) адзначана гэтай узнагародай "за значны асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне Беларусі, выдавецкую, духоўна-асветніцкую дзейнасць, плённую працу па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны".

Любоў Ляўшук прыйшла ў манастыр, калі ёй было 20 гадоў, і вось ужо больш за 30 гадоў яна служыць Госпаду. Ігуменняй Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра яна стала ў 2004 годзе. Уладыка Феадосій па свецкай адукацыі – інжынер, працаваў у Інстытуце радыёфізікі і электронікі Акадэміі навук Украіны. У 27 гадоў паступіў у Маскоўскую духоўную семінарыю, затым – у Маскоўскую духоўную акадэмію. Абараніў дысертацыю па тэорыі царкоўнага казання і атрымаў званне магістра багаслоўя. У 1997 годзе ўзначаліў Полацкую і Глыбоцкую епархію.

Кіраўнік дзяржавы таксама падпісаў указ № 5 "Аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года". Сярод лаўрэатаў ёсць калектыў з Віцебшчыны – заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь цырк "Юнацтва" Палаца культуры ААТ "Нафтан" Наваполацка. Цыркавы калектыў атрымаў узнагароду "за высокі мастацкі ўзровень цыркавых праграм, актыўны ўдзел у культурным жыцці рэспублікі".

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Âÿñåëëå ¢ ñòûë³ “Ï³íîê³à”

■ Чэслаў Якубовіч

**У наш прагматычны час людзям прыходзіцца спадзявацца толькі на сябе, не асабліва разлічваючы на падтрымку і разуменне акружаючых, занятых сваімі справамі.**

Праўда, час ад часу здараюцца прыемныя выключэнні. Так адбылося нядаўна ў гарпасёлку Бягомль Докшыцкага раёна, дзе з Рыма спецыяльна прыехалі італьянцы Гая Карлеці і Джавані Сансоне дапамагчы справіць вяселле двум выпускнікам мясцовай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот. Госці з Апенінаў прывезлі для маладых Каці і Дзімы Франкевічаў, якіх ніхто са сваякоў не падтрымаў, шлюбнае адзенне, аплацілі кафэ для 36 гасцей і ўсе расходы на вяселле з феерверкам у гонар маладой пары. Італьянцы з добрымі сэрцамі вось ужо 5 гадоў апякуюцца над гэтай сіроцкай школай, дапамагаючь моладзі з няпростым лёсам па праекце "Пінокіа". На сабраныя ў Італіі сродкі раней яны купілі для дзяцей, якім далей адна дарога ў дом інвалідаў, прасторны дом для васьмі выпускнікоў інтэрната і іх далейшай сацыялізацыі жыцця ў грамадстве. І на гэты раз рымляне прывезлі пакінутым юнакам і дзяўчатам шмат падарункаў з адзеннем і абуткам. Сямейная ўрачыстасць у пасёлку атрымалася сапраўднай, яе зняла на відэа адна з мясцовых былых выпускніц, цяпер ужо прафесійны аператар у італьянскай сталіцы.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# “Äîì ëåêàðà” ïàìàëàäçå¢

■ Кастусь Александровіч

**Да нядаўняга часу ў Паставах у перыяд сезоннага абвастрэння захворванняў гараджанам няпроста было дакупіцца медыкаментаў, бо ў райцэнтры было мала аптэк.**

Зараз такіх медустаноў у горадзе стала ўжо 8, з іх дзве прыватныя, аптэчная сетка размясцілася ва ўсіх буйнейшых жылых мікрараёнах. Аднак па-ранейшаму людзі аддаюць перавагу цэнтральнай аптэцы № 87, якая ўжо шмат дзесяцігоддзяў месціцца на цэнтральнай плошчы ў помніку архітэктуры XVIII стагоддзя – доме лекара. Напрыканцы года ў ёй завяршыўся капітальны рамонт з рэканструкцыяй прасторнай гандлёвай залы. За некалькі гадоў у памяшканні, не спыняючы працу аптэкі, нанава перакрылі дах, замянілі вокны і дзверы, сістэму ацяплення, адрамантавалі і прыгожа пафарбавалі фасады. Для фармацэўтаў з'явіліся нарэшце сучасныя ўмовы для іх працы з кандыцыянерамі, сучасным абсталяваннем і мэбляй і нават пакоем для адпачынку. Купляць лекі людзям стала значна прасцей, бо непазнавальна змянілася гандлёвая зала. Дарэчы, каб зрабіць сваю аптэку такой прывабнай, яе калектыў уклаў у гэту справу 300 млн. рублёў уласных сродкаў.

# Ó Ïàñòà¢ñê³ ðûáãàñ “Íàâ³íê³” ³äóöü âÿë³ê³ÿ ³íâåñòûöû³



■ Ч. Якубовіч

**Пастаўская рыбная гаспадарка "Навінкі" зазнае вялікія змены на працягу бліжэйшых двух гадоў. Прадпрыемства плануе рэалізаваць два інвестыцыйных праекты для пашырэння асартыменту прадукцыі.**

Першы праект прадугледжвае будаўніцтва цэха па перапрацоўцы рыбы, на што запатрабуецца каля Br3,5 млрд. Такая ж сума неабходная на другі праект - будаўніцтва комплексу па гадоўлі стронгі (фарэлі), каб замяніць карпа - пакуль асноўны для прадпрыемства від рыбы - на больш каштоўную пароду. Як адзначаў у інтэрв'ю агенцтву БелТА Аляксандр Ліхаманаў, досвед працы са стронгай у рыбгасе маецца: тут гадуюць малькоў гэтай рыбы і рэалізуюць пасадкавы матэрыял іншым гаспадаркам.

У 2010 годзе прадпрыемства выгадавала 1305 т рыбы (у 2009 годзе - 1148 т), у тым ліку таварнай 1015 т. Рэалізавана 923,5 т рыбы, у тым ліку больш за 100 т таўсталобіка і белага амура, а таксама сома і шчупака. Прыбытак ад рэалізацыі склаў Br140 млн., рэнтабельнасць - 3,4%, паведамляе БелТА.

Па эканамічных паказчыках на працягу апошніх пяці гадоў пастаўскія «Навінкі» ўваходзяць у тройку лепшых рыбагадоўчых гаспадарак Беларусі.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Ïðûñìàê³ íå òîëüê³ äëÿ ãóðìàíà¢

■ Станіслаў Раманчук

Дзякуй Богу, ранейшы час дэфіцыту скончыўся, і цяпер вытворцам прыходзіцца думаць, чым і як прыцягнуць увагу спажыўца да сваёй прадукцыі.

Вось і ў калектыве ААТ "Мёрскі мясакамбінат" пайшлі нядаўна на ўкараненне новай, больш яркай і прыгожай упакоўкі і абалонкі на мясапрадукты. Упершыню ў штатным раскладзе прадпрыемства з'явілася новыя пасады – гандлёвых агентаў у Мінску і Віцебску. Іх задача–пашырэнне аб'ёмаў продажу ў гандлёвых сетках. Калі ў абласным цэнтры і раней ведалі і з задавальненнем набывалі каўбаскі і мясныя дэлікатэсы з Мёр, то беларускую сталіцу пачалі "заваёўваць" нядаўна. Вырабы гандлёвай маркі "Мёры. Мясныя прасторы" цяпер прадстаўлены ў шэрагу мінскіх крам, на Камароўскім рынку, рынку ў Ждановічах і ў выставачным цэнтры "Белэкспа". На перыяд да 10 студзеня дзейнічалі гандлёвыя зніжкі да 14 % і на "ўра" разыходзіліся арыгінальныя каўбасы–чатырохгранныя батончыкі "Палерма", свіны "Пачастунак пагаспадарску" і вельмі смачны "Філей па-мёрску". Дзякуючы натуральным кампанентам і высокай якасці мясапрадуктаў удалося камбінату прабіцца таксама на прылаўкі супермаркетаў Санкт-Пецярбурга і ў крамы Пскоўскай і Ленінградскай абласцей Расіі.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

| | чацвер 13.01.11 | | | | пятн. 14.01.11 | | | | сб. 15.01.11 | | | | нядз. 16.01.11 | | | | пн.17.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -1 | -2 | 0 | -1 | -2 | -5 | -4 | -7 | -6 | -7 | -6 | -11 | -14 | -13 | -8 | -7 | -5 | -3 | +1 |
| Ціск, мм | 741 | 741 | 741 | 742 | 742 | 743 | 744 | 747 | 746 | 746 | 749 | 753 | 754 | 754 | 753 | 752 | 749 | 746 | 744 |
| Вільготнасць, % | 89 | 91 | 93 | 94 | 91 | 90 | 84 | 93 | 92 | 90 | 90 | 88 | 86 | 95 | 87 | 87 | 90 | 98 | 94 |
| Вецер м/сек | З 4 | Ю-З 5 | Ю-З 5 | Ю 4 | З 1 | С 2 | С 2 | В 2 | Ю-В 2 | В 3 | В 4 | С-В 4 | С 2 | Ю-В 3 | Ю-В 4 | Ю-В 6 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 3 |
| | | 08:28 | 16:08 | | | 08:27 | 16:10 | | | 08:26 | 16:12 | | | 08:25 | 16:13 | | 08:24 | 16:15 | |
| | | 10:55 | 01:49 | | | 11:17 | 03:03 | | | 11:47 | 04:16 | | | 12:29 | 05:24 | | 13:26 | 06:24 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Непрыемным сюрпрызам для беларусаў стала павышэнне закупачных цэн на малако, свіней і буйную рагатую жывёлу на 10 %, што непазбежна прывядзе да росту цэнаў на прадукты харчавання. Кіраўнік дзяржавы паабяцаў, што і ў 2011 годзе Беларусь захавае сацыяльную арыентацыю эканомікі, чаго 6 гэта ні каштавала. Дырэктыва № 4 па лібералізацыі павінна даць для гэтага дадатковы штуршок. Яшчэ больш спрасціўся сёлета для беларусаў з 1 студзеня ўезд у суседнюю Польшчу, нацыянальныя польскія візы для нас сталі бясплатнымі. Суседняя Літва таксама думае зрабіць аналагічны крок у адносінах да беларусаў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Чарговы прыгавор Хамоўніцкага суда Масквы экс-главе кампаніі "Юкас" Міхаілу Хадаркоўскаму (14 гадоў турмы) выклікаў вельмі рэзкую крытыку з боку заходніх краін.

**Данія.** Спецслужбы краіны сумесна з калегамі са Швецыі прадухілілі буйны тэракт у рэдакцыі газеты "Юландс-постэн" з боку ісламістаў, якія хацелі забіць шмат журналістаў.

**ЗША.** Амерыканская адміністрацыя некалькі разоў прызнала прайшоўшыя выбары ў Беларусі "нелігітымнымі", паабяцала захаваць санкцыі, такую ж пазіцыю заняла і Канада.

**Казахстан.** Партыя "Свет Айчыны" падтрымала ідэю правядзення рэферэндума аб прадаўжэнні прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Нурсултана Назарбаева яшчэ да 2020 года.

**Польшча.** Кіраўнік польскага МЗС сумесна з калегамі з Чэхіі, Швецыі і Германіі прапанаваў ЕС спыніць усялякі пазітыўны дыялог з уладамі Беларусі і падтрымаць народ.

**Венесуэла.** Краіна заключыла кантракт з Беларуссю на 2,5 млрд. USD па ўзвядзенні да канца 2012 года 1,5 млн. кв. метраў жылля для пацярпелых ад навадненняў людзей .

**Галандыя.** Глава МЗС краіны У. Разенталь запатрабаваў ад ЕС у дадатак да фінансавых санкцый вярнуць візавыя абмежаванні для вышэйшых беларускіх чыноўнікаў і сілавікоў.

**Літва.** Міністэрства аховы акаляючага асяроддзя краіны зноў абурылася, што для ўзвядзення АЭС беларусы выбралі пляцоўку ў Астраўцы, што ўсяго за 50 км ад Вільнюса.

**Кітай.** У абмен на экспарт сюды высокатэхналагічных тавараў краіна на саміце ЕС паабяцала дапамогу Еўропе ў барацьбе з даўгамі, набыла аблігацыі Грэцыі і Партугаліі.

**Англія.** З-за рэкордных маразоў раптам выйшлі са строю тысячы вадаправодных труб у Паўночнай Ірландыі, жыхары большасці дамоў засталіся ў халады без цяпла і вады .

**Балгарыя.** З-за разгулу карупцыі краіне і суседняй Румыніі, верагодна, не ўдасца ўступіць у Шэнгенскую зону вясной 2011 года, супраць гэтага выступілі разам Францыя з Германіяй.

**Чэхія.** Без традыцыйных святочных салютаў і феерверкаў упершыню правялі святы мэры шэрагу гарадоў краіны, толькі Прага зэканоміла на гэтым каля 100 тыс. $.

**Англія.** Знакаміты музыкант Элтан Джон ва ўзросце 64 гадоў разам з партнёрам па шлюбу Дэвідам нарэшце сталі бацькамі хлопчыка, якога ім нарадзіла сурагатная маці.

**Польшча.** У адной з клінік краіны пацвердзілі пасля генетычнай экспертызы рэдкі ў свеце факт нараджэння блізнят, хлопчыка і дзяўчынкі, ад ... розных бацькоў.

**Германія.** Нямецкі канцлер А. Меркель, у адрозненне ад калег-мужчын па ЕС, калядны водпуск правяла актыўна, каталася на горных лыжах у швейцарскіх Альпах.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Новы прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч паведаміў аб планах рэфармавання сістэмы органаў дзяржкіравання і нават магчымага зліцця некалькіх міністэрстваў у адно.

**Астравец.** Жыхары райцэнтра чакаюць, хто, калі і за чые грошы пабудуе тут беларускую АЭС, міжурадавае пагадненне РФ і РБ аб гэтым за мінулы год так і не падпісалі.

**Мінск.** Пасля прайшоўшых выбараў кіраўніцтва Беларусі вырашыла закрыць у Мінску пасля 7-мі гадоў працы Офіс місіі АБСЕ, ён рэалізаваў у краіне шэраг значных праектаў.

**Мінск.** Расійскі пасол у Беларусі назваў стваральнікамі перамогі А. Лукашэнкі на выбарах яго электарат: найперш пенсіянеры, сельскае насельніцтва, армія і праваахоўная сістэма.

**Мазыр.** Сваю родную Гомельскую вобласць узначаліў былы кіраўнік раёна, раней галоўны ветурач, дырэктар саўгасакамбіната "Зара" 47-гадовы Уладзімір Дворнік.

**Мінск.** Кіраўнік прэзідэнцкай Адміністрацыі У. Макей прызнаў, што пры агромістай дапамозе дзяржавы Першы канал БТ застыў у развіцці і саступае па папулярнасці іншым.

**Магілёў.** У багатай прыгараднай гаспадарцы "Вейна" сярод паўтысячы працуючых каля паловы склалі з-за добрых зарплат жыхары горада, іх штодзень возяць на працу аўтобусамі.

**Гомель.** Горад перажыў масавы ад'езд гамяльчан на буйныя ўкраінскія рынкі Чарнігава і Хмяльніцкага, дзе сезонныя скідкі на тавары былі 50-70 %, чаго яшчэ няма ў Беларусі.

**Любань.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі сучасную дзіцячую школу мастацтваў, у яе будынку размясціліся класы і нават студыя гуказапісу, канцэртная і выставачная залы.

**Пружаны.** Непазнавальна змяніў родную вёску Клетнае бізнесмен з РФ Мікалай Бурнос, за 20 млн. $ ён падвёў землякам газ, пабудаваў ім спарткомплекс, гатэль з рэстаранам.

**Бабруйск.** Папулярны расійскі тэлеканал "РТР-2" паказаў у прамым эфіры з мясцовага Палацу спорту турнір па баях без правілаў, горад лічаць байцоўскай сталіцай Беларусі.

**Мінск.** Як паведаміў старшыня гарвыканкама Мікалай Ладуцька, у кожным раёне сталіцы сёлета пабудуюць па 1 тысячы месц для паркоўкі аўтамабіляў, іх тут 630 тысяч штук.

**Магілёў.** Цэнтр горада ўпрыгожыў абноўлены гістарычны будынак абласнога тэатра лялек, да якога зрабілі сучасную прыбудову. Кошт рэканструкцыі склаў 15 млрд. рублёў.

**Мір.** Як заявіў тут міністр культуры Беларусі Павел Латушка, у рамках праграмы "Замкі Беларусі"ў бліжэйшыя 7 гадоў мяркуецца аднавіць і рэканструяваць яшчэ 21 такі аб'ект.

**Мінск.** На кінастудыі "Беларусьфільм" з задавальненнем успрынялі факт непрадаўжэння кантракту з гендырэктарам пенсійнага ўзросту, вядомым палкоўнікам У. Замяталіным.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** З-за дрэннага ўраджаю збожжа летась лікёра-гарэлачны завод "Прыдзвінне" адчувае вострыя недахоп сыравіны, закуп зерня з іншых абласцей краіны яму забаранілі.

**Лепель.** Кіраўніцтва вобласці даручыла ўзвесці ў былым ваенным гарадку Заслонава з насельніцтвам 3 тыс. чалавек сучасны дзіцячы сад на 120 месц з басейнам для малышоў.

**Віцебск.** Дэпартамент дзяржінспекцыі працы наклаў буйны штраф на дырэкцыю ААТ "КІМ" за затрымкі зарплат рабочым. Даўгі фабрыкі перавысілі 10 млрд. рублёў.

**Полацк.** На аб'яднанні "Шкловалакно" правялі мадэрнізацыю шклаварнай печы № 4 з электрападагрэвам, што павялічыла яе прадукцыйнасць на 20 % і дазволіць задаволіць усе заказы.

**Мёры.** Праз шмат гадоў нарэшце ў абласную інвестыцыйную праграму ўключылі даўгабуд – мясцовую райбальніцу. Аналагічную ўжо 20 год не заканчаць у Шаркоўшчыне.

**Віцебск.** Бударганізацыям вобласці, як заявіў нам. старшыні аблвыканкама А. Дзівулін, востра не хапае 5 тысяч будаўнікоў, лепшыя з іх выязджаюць на заробкі за мяжу.

**Талачын.** Па факту незаконнага палявання міліцыя распачала крымінальную справу супраць непрацуючага жыхара вёскі Раздольнае, у яго знайшлі самаробны пісталет.

**Мёры.** Упрыгожаннем райцэнтра стаў новы арыгінальны двухпавярховы будынак раённай пракуратуры коштам 1,3 млрд. рублёў, яго ўзвялі за 8 месяцаў працы мясцовая ПМК-55.

**Паставы.** Больш за 200 тыс. EUR выдзеліў Еўрасаюз на другі этап рэстаўрацыі палаца Тызенгаўза ў райцэнтры, да канца года ў ім размесціцца філіял краязнаўчага музея.

**Віцебск.** Адразу 3 залатыя медалі заваявала фірма "Белвест" за мужчынскі і жаночы абутак на прэстыжным конкурсе "Усерасійская марка (III тысячагоддзе). Знак якасці".

**Орша.** У пасёлку Копысь паблізу райцэнтра адкрыўся цэнтр народнай творчасці і рамёстваў, каля 40 майстроў займаюцца тут ткацтвам, керамікай, вышыўкай, разьбой.

**Гарадок.** Работніца "Белдзяржстраху" сумесна з міліцыяй затрымала 59-гадовую зладзейку, якая скрала днём з незачыненага службовага кабінета 140 тыс. рублёў.

**Віцебск.** За адны суткі ў абласным цэнтры выпала дэкадная норма снегу, снежны покрыў дасягнуў амаль 40 см, чаго не назіралася тут з яшчэ больш снежнага 1937 г.

**Лепель.** У 25-гадовага жыхара раёна канфіскавалі ў ходзе спецаперацыі ў ангары ля вёскі Бароўка і ў васьмі тайніках у лесе 11 кг наркотыкаў марыхуаны для збыту па краіне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**13** – столькі важнейшых кадравых рашэнняў прыняў аператыўна Прэзідэнт Беларусі адразу пасля складання ўрадам сваіх паўнамоцтваў перад зноў абраным кіраўніком дзяржавы. Нечаканыя і даволі істотныя змены закранулі не толькі склад Савета Міністраў РБ, прэзідэнцкую Адміністрацыю, Камітэт дзяржкантролю, Нацыянальную акадэмію навук, але і Гомельшчыну з Белтэлерадыёкампаніяй, куды былі прызначаны новыя кіраўнікі, дзяржслужачыя вышэйшых рангаў. Больш таго, было заяўлена, што абнаўленне пройдзе з верху да нізу і закране фактычна 90 % (!) кадравага рэестра.

Фарміраванне ў асноўным новага складу беларускага ўрада было праведзена без раскачак і яшчэ да новага года. Адзінае, на што звярнулі ўвагу эксперты, гэта даволі паважаны ўзрост службовых асоб вышэйшага ўзроўню. У прыватнасці, рубеж 60 гадоў пераадолелі прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч і вопытны кіраўнік Гомельскай вобласці Аляксандр Якабсон, які на працягу 10 апошніх гадоў узначальваў гэты паўднёвы рэгіён краіны перад сваім пераходам на працу ў Камітэт дзяржкантролю.

Дарэчы, закошт гэтай Чарнобыльскай вобласці (адзін буйны НПЗ у Мазыры чаго варты) і яшчэ сталічнай Мінскай кіраўніцтва Беларусі мяркуе значна прыбавіць у павышэнні ўзроўню жыцця нацыі. У гэтым годзе зрабіць гэта будзе няпроста найперш з-за знешнепалітычнага фону вакол краіны пасля прайшоўшых выбараў. Не сакрэт, што ктраўнікі заходніх дзяржаў мяркуюць цяпер, ці не перагледзець адносіны з кіраўніцтвам РБ іадначасова падтрымаць простых беларускіх грамадзян. Беларусі не ўдалося знізіць цану на газ сёлета, ды і ў новых кантрактах у 2012-2014 гадах нам нерэальна разлічваць на кошт гэтага паліва, як у Смаленскай вобласці.

Нават з улікам далучэння краіны да Адзінай эканамічнай прасторы і ратыфікацыі першай тройкі з неабходных 18 пагадненняў беларусам не варта спадзявацца, што бензін патаннее хоць бы да расійскага ўзроўню. Аналагічныя дакументы парламенты Расіі і Казахстана павінны зацвердзіць на працягу першага паўгоддзя гэтага года. Праўда, атрыманыя намі прэферэнцыі па нафце ацэньваюцца ў суме каля 2 млрд. долараў. А вось пошліны на аўтамабілі для насельніцтва павялічацца ўжо ў сярэдзіне лета. Наша краіна ўніфікавала свой імпартны тарыф з Расіяй яшчэ летась на 95 %.

Заўважым, што ўпершыню на постсавецкай прасторы зараз з'явіўся наднацыянальны орган – Камітэт Мытнага саюза (КМС). Яго рашэнні будуць абавязковымі для трох краін-удзельніц. У нас з казахамі ў КМС ёсць па 21,5 галасоў, адпаведная доля Расіі - 57, а рашэнні прымаюцца 2/3 большасцю галасоў. У прынцыпе, РФ з Казахстанам у любы момант могуць аб'ядноўвацца і прыняць рашэнні без уліку пазіцыі беларусаў. Але калі наша краіна з гэтым будзе не згодная, то спрэчнае пытанне можа быць вынесена на ўзровень трох Прэзідэнтаў, дзе дакумент прымаецца ўжо кансенсусам.

Пакуль жа абноўленаму складу беларускага ўрада прыйдзецца выконваць і ўлазнне сваіх папярэднікаў па павышэнні з 1 студзеня 2011 года новай мінімальнай зарплаты, якая павысілася адразу на 60 тысяч да ўзроўню 460. 000 рублёў у месяц. Дзякуй Богу, Беларусь пры падпорчанай пасля акцыі на плошчы рэпутацыі засталася ўдзельніцай праграмы ЕС "Усходняе партнёрства". Цяпер такі свет, што цяжка малым краінам (Беларусь не выключэнне) абмежавацца ад уплыву і ўмяшання ў пэўнай ступені ў іх ўнутраныя справы знешніх моцных суседзяў.

Нашай краіне, каб развівацца , трэба пачынаць мадэрнізацыю многіх сфер жыцця. Толькі гэта прывядзе да эканамічнага росту і выканання высокіх рубяжоў, прынятых 4-м Усебеларускім сходам. Дарэчы, большасць з міністраў урада, якія захавалі свае пасады, былі прызначаны на іх адносна нядаўна, год ці два назад. Беларусь павінна зрабіць каласальны рывок па ўсіх напрамках – так дыктуе зараз жыццё. Таму ўсіх нас чакае напружаная праца, тым больш упраўленцам высокага рангу не пазайздросціш: з іх спытаюць за вынікі па поўнай праграме. Хочацца пажадаць ім поспехаў, бо ад іх умелага кіраўніцтва залежыць, ці зменіцца наша прыгожая краіна ў лепшы бок.

**■ Кліменцій Кожан, м. Германавічы**

# У зімовы час я звычайна займаюся нарыхтоўкай дроў

*Допіс на артыкул Ф. Шымуковіча «Урокі гісторыі»*

Фадзей Шымуковіч з Дзісны расказаў, як жылося настаўнікам у царскай Расіі. Я крыху раскажу Вам, як жыў я сам на вёсцы. Сёлета ў ліпені жаў сярпом пшаніцу на сваім участку. Было пасеяна каля 10 сотак пшаніцы. Абмалаціў 140 снапоў уручную, палкай. Камбайн чакаць доўга. Спачатку калгас убірае свой ураджай, толькі потым дапамагае малаціць людзям.

Развёз тачкай гной з бурта, які зрабіў год назад. Для гэтага папрасіў у калгасе прывезці жыдкага гною, які скарыстаў для прыгатавання бурта з саломы, сухой травы. Салома, трава, перамешаныя з жыдкім гноем, за год згніваюць. Утвараецца гной, як у хляве.

Уся восень праходзіць у працы на ўчастку ў 20 сотак. Калі мы былі маладзейшыя, то трымалі яшчэ ўчастак у 50 сотак на полі, за 5 км ад хаты. Восем год назад мы адмовіліся ад тых 50 сотак, таму што пастарэлі, стала зацяжка апрацоўваць яго.

У зімовы час я звычайна займаюся нарыхтоўкай дроў. Пачынаючы з 1969 года, на працягу 30 гадоў, дровы нарыхтоўваў у лесе летам, у час адпачынку. У лес ездзіў на ровары з тапаром і ядой. Потым прасіў трактар у калгасе, каб прывезці дровы з лесу. Пачынаючы з 1999 года, купляў дровы праз гарпаліва. Па лініі сельсавета, як пенсіянеру, прывозілі адзін прычэп дроў у год. Але не кожны год сельсавету ўдаецца задаволіць усіх пенсіянераў – прывезці ім па прычэпу дроў. Не хапае ў лясніцтве трактароў, каб усім прывезці дровы.

Прывёзшы дровы з лесу, іх трэба парэзаць, пасекчы, скласці ў клады. Старому чалавеку працы хапае на цэлыя месяцы.

Калі ж сям'я настаўнікаў мае вялікі ўчастак, трымае карову, цяля, свіней, авечак, птушку, то працы будзе яшчэ больш. У нас настаўнік, у адрозненне ад царскіх часоў– гэта напалавіну настаўнік, напалавіну калгаснік, а лепш сказаць – менш настаўнік, а больш калгаснік.

Аднойчы знаёмы латыш, які жыў у Рызе, сказаў мне, што ён не ўяўляе настаўніка з вялікай асабістай гаспадаркай. Гэта будзе не настаўнік, а звычайны калгаснік, для якога гаспадарка будзе важнейшая за школьныя справы.

Мяне зацікавіла тэма зніклых вёсак. Пачаў збіраць у Глыбоцкім архіве матэрыялы аб зніклых вёсках каля Шкунцікаў і Германавіч. У Беларусі знікла вялікае мноства невялікіх вёсак і прадаўжае знікаць. Аграгарадкі будуюць на базе больш буйных вёсак і былых мястэчак. Але аграгарадкі не могуць выратаваць вёску ў цэлым. У невялікіх вёсках дажываюць свой век пенсіянеры. Моладзі тут практычна няма. Гэтыя вёскі паступова знікаюць. А гэта ж частка нашай гісторыі. Мая жонка Людміла нарадзілася ў вёсцы Русцягі Слабодкаўскага сельсавета Браслаўскага раёна, за 7-8 км ад Слабодкі, каля возера Войса. Вёска Русцягі была хутарная, яна даўно знікла. Хто памёр, а хто перасяліўся ў Браслаў, выехаў у Латвію, ці іншыя месцы, пакінуўшы маляўнічыя азёрныя мясціны, якія ўваходзяць цяпер у склад Нацыянальнага парка. Бацькі маёй жонкі пабудавалі дом у суседняй невялікай вёсцы Крэўня (можа, трэба пісаць Краўня). Гэтая вёсачка пры возеры Войса таксама паступова знікае, як і іншыя вёскі азёрнай Браслаўшчыны.

Там-сям па Беларусі сталі ўзводзіць своеасаблівыя помнікі на месцы зніклых вёсак. Я лічу, што наша зямля была б больш прыгожай, калі б на ёй размяшчаліся самыя розныя населеныя пункты, як гэта было раней, у пачатку XX стагоддзя. Тады ў сельскай мясцовасці былі мястэчкі, сёлы, вёскі, ваколіцы, засценкі, фальваркі, хутары, водрубы, калоніі. Найбольш старажытныя і распаўсюджаныя з іх – сёлы і вёскі. Можа стацца так, што з цягам часу паміж аграгарадкамі ніякіх маленькіх населеных пунктаў не застанецца, на 20-25 км будзе пустэча, палі там-сям зарастуць кустоўем і ператворацца ў няўдобіцы. Калі я еду з Лужкоў на Глыбокае, то ўжо зараз бачу паміраючыя вёскі Рубашкі, Парэчча, Шчарбы. Толькі каля Глыбокага пейзаж паляпшаецца. Тут бачны аграгарадкі, турсядзібы, можа, чыесьці лецішчы (дачы).



**Кліменцій Арсеньевіч Кожан (на пярэднім плане) сярод настаўнікаў.**

**■ Уладзімір Скрабатун**

# Норыца

*«...Норьци еже суть Словѣне»*

Той, хто едзе па шашы Полацк-Вільня да страусаў у «Салаўіны Гай» альбо ў Літву ці Паставы, наўрад ці без нагоды завітае ў Норыцу, якая знаходзіцца за кіламетр убок ад згаданай аўтадарогі...

Норыца цікавая хіба што краязнаўцам і гісторыкам. Старажытнае паселішча, даўняе мястэчка на Пастаўшчыне. Цэнтр воласці, потым гміны, цяпер сельсавета. Зрэшты, ёсць тут цікавостка – адзін са старэйшых паркаў Беларусі, дзе яшчэ і сёння захаваліся валы колішняй старажытнай крэпасці (альбо замка). Парк, верагодна, закладзены ў палове XVIII стагоддзя ў маёнтку Сулістроўскіх. У 1875 годзе маёнтак перайшоў Лапацінскім. Некалі ў парку стаяў палац, які згарэў у 1925 годзе. Апошнімі ўладальнікамі, як сведчаць старажылы, былі Акушкі.

Праўда, сёння мы не будзем рабіць экскурс у гісторыю Норыцы, бо гэтая тэма патрабуе часу для яе распрацоўкі. Нас жа зацікавіў сам назоў – Норыца.

Цікавы фіналь у назве "Норыца" – "-ыца". А ёсць яшчэ побач Ласіца, Галбеіца, а недалёка ад Глыбокага – Аржаніца. Гэта наводзіць на думку, што ў слове (назве) Норыца коранем з'яўляецца – "Нор".

Паходжанне шматлікіх назваў населеных пунктаў нашага краю звязаныя з прозвішчам першага яго пасяленца ці заснавальніка паселішча. Пятроўскі – *Пятроўскія, Пятроўшчына*; Мацэс – *Мацэсы*, Анкуд – *Анкуды*, Протас – *Пратасы*, Прозар – *Празарокі*…

Можа, ёсць такое прозвішча – Норыца? Калі такога прозвішча мы не знойдзем ў тэлефонным даведніку Глыбоцкага ці Пастаўскага раёнаў, то гэта яшчэ не факт, што падобных прозвішчаў не існуе. Ёсць жа вёска Псуя, і, як ні дзіўна, існуе і прозвішча Псуя. Аказваецца, і такое прозвішча, як Норыца, існуе. Па-ўкраінску – Норіца.

Што такое "норыца"? "Этимологический русскоязычный словарь Фасмера" тлумачыць:

«НОРИЦА – язва на загривке у лошади вследствие натертости», польск. norzyca. Уменьш. от нора, потому что при этой болезни возникает ямка, углубление. Сюда же норичник, норышник, «растение Gentiana», потому что оно считается средством против норицы».

Верагоднасць таго, што назва Норыца паходзіць ад прозвішча, ёсць! Вось толькі наколькі гэтая верагоднасць вялікая?

Норыца – адзінкавы лік. Але для нашых мясцінаў у назвах – тыповы множны лік. Напрыклад, прозвішча Пятроўскі, а вёскі – Пятроўскія, альбо варыянт з фіналем «–шчына» – Пятроўшчына, Крулеўшчына, Сазонаўшчына. Верагодней, у нашым выпадку было б Норыцы.

Не так даўно знайшоў спасылку на кнігу XIX стагоддзя "Остатки языка полабских славянъ", дзе прачытаў цікавыя радкі:

"Слово *Нарьцы* или *Норьци* упоминается Русскимъ лѣтописцемъ: «Отъ сихъ 70 и 2 языку *бысть языкъ Словенескъ отъ племени Афетова, Норьци (вар. Нарьци) еже суть Словѣне*.

Арійское слово *нар* ілі *нара* – значитъ – человѣкъ, мущина, мужъ homo, vir; – стало быть, слово *Норинъ* (множ. *Нори*, ласкат. *Норьцъ*) значитъ собственно человѣкъ, мужъ.

Славяне *Нарьци* или *Норьци* выселились изъ своей прародины (лѣвомъ берегу Дуная), за Дунай, и нынѣ называются *Болгарами* ...»

Вось гэтая фраза – «и нынѣ называются Болгарами» – аўтара ледзьве не павергла ў шок!

Няўжо сенсацыя! Справа ў тым, што год, мо крыху болей, таму наш няўрымслівы чытач Генадзь Плавінскі прынёс мне газету "Полацкі веснік", дзе быў змешчаны артыкул Сяргея Глушкова пра вёску Наўліца.

Тут трэба зрабіць невялікае адступленне. Рэч у тым, што спадар Плавінскі паходзіць з вёскі Гуры, а мая маці – з вёскі Наўліца. Абедзве вёскі ляжаць на беразе вялікага Наўліцкага возера. Вось мы, маючы такую нагоду, два гады таму разам з самадзейным мастаком Віктарам Дудкевічам і прысеўшым ў Ветрыне краязнаўцам Віктарам Карасёвым наведаліся ў гэтыя мясціны, шукаючы славуты Вітаў камень. Пасля той паездкі, натуральна, артыкул спадара Глушкова мяне яшчэ больш зацікавіў. І вось чаму! Назву вёскі Наўліца ён выводзіць з балгарскай мовы. Пабалгарску *наўліцы* – прышлыя людзі. Што тут рабілі прышлыя людзі? Яны былі выдатнымі спецыялістамі! Па запрашэнні полацкіх князёў будавалі Полацк, полацкія храмы. Пасялілі іх на беразе возера, і вёска атрымала назоў – Наўліца (Наўліцы).

Наўліца – Норыца! Нават сугучча ў фіналах.

Норыцу заснавалі балгары? Вельмі верагодна!

Дарэчы, рускае слова «норица» (язва) вымаўляецца з націскам на літару «и» і да тэмы нашага апавядання, праўдападобна, ніякім бокам не падыходзіць.



# 11 прычын, па якіх варта наведаць Мірскі замак

**Асаблівую цікавасць у Мірскім замку выклікаюць**:

**1. Слуцкі пояс**

Пояс прадстаўлены ў двух фрагментах – адзін з асноўных элементаў касцюма багатага беларускага шляхціца. Слуцкія паясы выраблялiся з тонкіх шаўковых, залатых і срэбных нітак.

**2. Шпалера «Паляванне на тура»**

Шпалера з распаўсюджаным у ВКЛ і Рэчы Паспалітай сюжэтам "паляванне". Першая ў Рэспубліцы Беларусь набытая шпалера такога кшталту. Тур – сімвал моцы. Нездарма яго малявалі на гербах гарадоў. Гэтая шпалера была створана каля 400 гадоў таму на пачатку XVII стагоддзя.

**3. Рогі тура**

Унікальны экспанат, знойдзены на Гродзеншчыне. Маецца толькі дзве адзінкі ў Рэспубліцы Беларусь. Апошні тур быў забіты ў Налібоцкай пушчы ў 1627 годзе.

**4. Ядры гармат**

Аўтэнтычныя экспанаты. У часы будаўніцтва замка артылерыя лічылася найбольш дасканалай і сучаснай зброяй пры штурме крэпасцей. Мірскі замак будаваўся з папраўкай на новыя ваенныя тэхналогіі. Байніцы яго вежаў былі разлічаны на артылерыйскі абстрэл. Да нашых дзён за сценамі замка знаходзяць каменныя ядры XVI–XVII стагоддзяў.

**5. Кавалерыйскі барабан (літаўра)**

Унікальны экспанат. У другой палове XVIII стагоддзя тагачасны гаспадар Мірскага замка Караль Станіслаў Радзівіл быў адным з самых магутных магнатаў Рэчы Паспалітай. Колькасць яго прыватнай арміі была больш за 10 тысяч чалавек. Падобныя барабаны выкарыстоўваліся ў радзівілаўскай кавалерыі ў XVIII стагоддзі. Гучныя гукі барабанаў былі сігналам да атакі.

**6. Чорная сасна ў парку**

У старажытнасці "італьянскі сад" каля Мірскага замка славіўся экзатычнымі раслінамі і дрэвамі. Каля замка ў пейзажным, так званым англійскім парку расце вельмі рэдкая для Беларусі чорная сасна, пасаджаная князямі Святаполк-Мірскімі. Гэта дрэва можа дасягаць узросту 800 гадоў. Такія экзатычныя зялёныя хвойныя дрэвы любілі саджаць каля сцен сваіх рэзідэнцый беларускія магнаты.

**7. Копія карты Радзівілаў**

Першы гаспадар Мірскага замка з роду Радзівілаў па прозвішчу Сіротка быў вядомым падарожнікам. На пачатку XVII стагоддзя яго кніга аб пілігрымцы ў Святую зямлю была перакладзена на некалькі еўрапейскіх моў і вытрымала каля 20 выданняў. У магната было шэсць сыноў, якія, як і іх бацька, любілі вандраваць па свеце. У 1620 годзе яны прывозілі са сваіх вандровак у Мірскі і Нясвіжскі замкі геаграфічныя карты, якія ўжо тады былі даволі дакладнымі. Адна з такіх карт прадстаўлена ў экспазіцыі Мірскага замка.

**8. Гістарычная рэканструкцыя экспазіцый**

«Сталовая ізба» XVII ст. і «Партрэтная зала» 1740–1750-х гг. У гэтых залах адноўлены кесаніраваныя і ляпныя пазалочаныя столі, устаноўлены і рэканструяваныя печы і каміны, паркетная падлога, дэкор сцен.

**9. Марка «Мірскі замак»**

Першая марка, выдадзеная ў гонар замка. У 1930 гады прэзідэнт Польшчы Масціцкі наведаў Мірскі замак і сустрэўся з князем Міхаілам Святаполк- Мірскім. Прэзідэнт Польшчы высока адзначыў намаганні князя па рэстаўрацыі замка і захаванні "польскай культурнай спадчыны", якой лічыўся замак. Неўзабаве была выпушчана і марка з выявай замка.

**10. «Галава барана» на сцяне з відам на стаў**

Існуе легенда: пакуль будзе цэлая гэта галава, будзе стаяць замак.

**11. Экспазіцыя Святаполк-Мірскіх**

У гасцёўні экспануецца пласцінка з запісамі рамансаў Надзеі Святаполк-Мірскай. Пласцінка знойдзена супрацоўнікамі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў архіве (г. Мінск). Голас будзе агучаны ў экспазіцыі.

Супрацоўнікам удалося зрабіць алічбоўку песень з адной з пласцінак і запісаць на сучасны дыск. Такім чынам, можна пачуць голас адной з княгінь Святаполк-Мірскіх.

*Крыніца: «Гродненская правда»*

Стары альбом

# У Падсвіллі быў тэатр



Narodowe Archiwum Cyfrowe, sygn. 1-K-11647

**Прадстаўленне «Верная каханка» ў аматарскім тэатры ў Падсвіллі. Сцэна з III акта прастаўлення.** *Здымак да 1939 года.*

Narodowe Archiwum Cyfrowe, sygn. 1-K-11648

**Прадстаўленне «Загад» у жаўнерскім тэатры батальёна КАП у Падсвіллі. Фрагмент прастаўлення.** *Здымак 1935 года.*

■ Уладзімір Скрабатун

**Часам узнікае натуральнае пытанне: ці трэба дзякаваць палякам за тое, што нягледзячы на віхуры ваенных ліхалеццяў, пажары і разбурэнні, зберaглі нашую гісторыю да сёння?**

Альбо надварот, дзякуй няхай скажуць самім сабе! Ёсць жа іншае меркаванне. Васямнаццаць гадоў (з 1921-39 гг) мы знаходзіліся пад польскай акупацыяй, бо па Рыжскай мірнай дамове нас аддалі палякам. З гэтага вынікае: кнігі, паштоўкі, архіўныя здымкі з тых часоў – не нашая гісторыя! Ляжала гэта ўсё на пыльных паліцах польскіх архіваў і няхай ляжыць далей, ці няхай наогул пасячэ моль ці пагрызуць пацукі.

Якім бы недарэчным не выглядала б апошняе меркаванне, але па гэтым сцэнару і разгортваюцца цяпер падзеі. Ну вось, палякаў у 1939 годзе выгналі, але яны пакінулі пасля сябе горад, якога да іх гаспадарання не было і на карце – Падсвілле. Значыць, калі ёсць горад, то павінна ў яго быць хоць нейкая гісторыя. Нават цягам усяго восем дзесяцігоддзяў.

Была культура! Польская! І гэтага факта ніяк не выкрасліць з гісторыі Падсвілля, бо гісторыя такая, якая яна ёсць, і іншай у гэтага мястэчка няма.

Не разумею, чым насалілі палякі цяперашнім падсвільчанам, але тут знішчаецца ўсё, што хоць мала-памалу нагадвае аб тым перыядзе. Быў цікавы будынак школы ў закапанскім стылі, які апошнім часам пуставаў. Маглі б перадаць мясцовай турбазе пад гатэль! Не! Кажуць, разбіраюць на дровы.

За «польскім часам» у Падсвіллі стаяў батальён КАПа (Korpus Ochrony Pogranicza). Пагранічнікі! Быў і аматарскі тэатр, які ладзіў тэатралізаваныя прадстаўленні ў жаўнерскім тэатры...

Шмат каму хацелася б, зразумела, мець зусім іншую гісторыю мястэчка, але ж ад мінулага нікуды не дзенешся, прыходзіцца мірыцца і жыць з тым, што маем..



Narodowe Archiwum Cyfrowe, sygn. 1-K-11649

**Ансамбль аматарскага тэатра. Групавы здымак.** *Здымак да 1939 года.*

## Жыхарка Браслава стала 100-тысячным абанентам byfly

**Правайдар Белтэлекам (гандлёвая марка byfly) паведаміў пра падключэнне 100-тысячнага абанента ў Віцебскай вобласці.**

**Уладальнікам тытула стала Кальцова Зоя з горада Браслава Віцебскай вобласці.**

Дырэктар Віцебскага філіяла правайдара Аляксандр Бохан ўрачыста павіншаваў статысячнага абанента і ўручыў ВК-тэлевізар.

*Westki.info*



# Віншаванкі

## Зою Іванаўну Дзехцяронак

**Віншую з Днём нараджэння!**



День рождения – особая дата,
Этот праздник ни с чем не сравнить.
Кто-то добрый придумал когда-то
Именинникам радость дарить!
Пусть глаза твои счастьем сияют,
Пусть улыбка не сходит с лица!
С днём рождения тебя поздравляю
И удачи желаю всегда!

*Сяброўка Лена*

**PS.** *Гэта віншаванне павінна было стаяць у мінулым нумары, але па віне адказнага работніка яно своечасова не патрапіла ў газету.* **Перапрашаем!**

## Ангеліна Станіславаўна Пашковіч

**Дарагая і любімая наша жонка, маці, бабуля і прабабуля!Віншуем цябе з 80-годдзем! Жадаем моцнага здароўя і доўгіх год жыцця!**



Нет теплей твоих рук и светлей твоих глаз.
И добрей мы не слышали голоса.
Ты молилась за нас, и страдала за нас,
А сединки цеплялись за волосы.
Поздравляем тебя мы большою семьёй,
Здоровья и сил пусть хватает,
Пусть невзгоды обходят тебя стороной,
И Господь пусть тебя охраняет!

*Муж, дзеці, унукі і праўнукі.*

## Ірыну Пятроўну Дзевятуху

**Сардэчна віншую з нагоды юбілею Дня народзін**



Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Тебе сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровой быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти -
И никогда не унывать.

*Т. Сіўко*

## Алёну Генадзьеўну Бехцярову

**Сардэчна віншую з нагоды Дня народзін**



Пусть будет все, что в жизни нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, верность, дружба
И вечно юная душа.

*Т. Сіўко.*

# ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ - ГЭТА НЕБЯСПЕЧНА!

■ **А.Н. Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА « Энерганагляду»*

**У наш час жыццё без электрычнасці не ўяўляецца магчымым, таму што сутыкаемся мы з ім штогадзіння і паўсюдна. Аднак чалавеку ўласціва хутка забываць пра тое, што электрычны ток уяўляе сабою сур'ёзную небяспеку. Няшчасныя выпадкі з паражэннем электрычным токам адбываліся і адбываюцца з палохаючай пастаяннасцю.**

Аналіз няшчасных выпадкаў электратраўматызму з насельніцтвам выглядае наступным чынам:

– шэсць чалавек (трое дзяцей і трое дарослых) загінулі, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да абарваных правадоў лініі 10 кв;

– чатыры чалавекі (за 2009 год – шэсць чалавек) загінулі пры лоўлі рыбы з выкарыстаннем тэлескапічных вудзільнаў паблізу ліній электраперадач 10 і 110 кВ;

– пяць чалавек, з іх чацвёра дзяцей, загінулі ад паражэння электрычным токам, ажыццявіўшы самавольнае пранікненне ў размеркавальныя прылады 10 і 0,4 кВ і наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да токаводных частак пад напругай;

– тры чалавекі загінулі ў выніку спроб самавольнага падключэння да сетак энергазабяспечвальнай арганізацыі і аднаўлення абарваных правадоў.

– адзін чалавек загінуў пры спробе крадзяжу каляровых металаў.

Бывае, што небяспека чакае там, дзе яе менш за ўсё чакаеш. У большасці выпадкаў няшчасця можна было пазбегнуць. Прычыны амаль усіх няшчасных выпадкаў – бяспечнасць, непісьменнасць і грэбаванне самымі элементарнымі правіламі электрабяспекі.

**Выконвайце правілы электрабяспекі, і бяда абыйдзе вас бокам!**



# Аднаго пабітага градусніка дастаткова для цяжкага атручвання

■ **А.А.Панфілка,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*

### Што рабіць, калі разбіўся градуснік?

**Зіма -- гэта не толькі час навагодніх феерверкаў і падлёдnай рыбалкі, але і сезон грыпу і прастуд, калі актыўна выкарыстоўваюцца ртутныя тэрмометры. Яны ёсць амаль у кожнай сям'і. Тым часам аднаго пабітага градусніка дастаткова для цяжкага атручвання, якое можа выявіцца ўжо праз 8–24 гадзіны. Калі вы разбілі тэрмометр, дзейнічайце так:**

– надзеньце пальчаткі;

– пазначце месца, дзе разбіўся градуснік: ртуць прымацоўваецца да паверхняў і можа быць разнесена на падэшвах па ўсім памяшканні;

– збярыце ртуць і ўсе аскепкі градусніка ў шкляны слоік з халоднай вадой, шчыльна закаркуйце шрубавым вечкам. Вада неабходна для таго, каб ртуць не выпаралася;

– дробныя шарыкі можна сабраць пры дапамозе шпрыца, гумовай грушы, двух лістоў паперы, лейкапластыра, скотча ці мокрай газеты;

– адкрыйце вокны і старанна выветрыце памяшканне;

– месца «аварыі» прамыйце канцэнтраваным растворам марганцоўкі ці хлоркавай вапны.

### Ці можна спакойна адпачываць узімку на вадаёмах?

**Выратавальнікі раяць паводзіць сябе ўзімку на вадаёмах максімальна акуратна. Такім чынам…**

**Калі пад нагамі праламаўся лёд:**

– перасоўвайцеся да краю палонкі;

– дабраўшыся, паспрабуйце высунуцца з вады, каб закінуць нагу на край лёду;

– калі лёд вытрымаў, асцярожна перавярніцеся на спіну і павольна перасоўвайцеся да берага;

– выбраўшыся на бераг, сагрэйцеся: пераахаладжэнне можа выклікаць сур'ёзныя ўскладненні.

**Каб аказаць дапамогу пацярпеламу, які патрапіў у палонку:**

– знайдзіце доўгую тычку ці вяроўку;

– паспрабуйце наблізіцца да палонкі, апошнія 10--15 метраў перасоўвайцеся паўзком;

– на бяспечнай адлегласці ад краю палонкі падайце пацярпеламу тычка (вяроўку);

– пасля выратавання пацярпелага выклічце медыкаў, да іх прыбыцця акажыце яму першую дапамогу.

**Пры руху па лёдзе трымайце ў руках палку, прамацоўвайце перад сабой шлях.**

### Як аказаць першую дапамогу пры ўтапленні?

**Дапамагчы чалавеку, які стаў ахвярай уласнай бяспечнасці падчас зімовага адпачынку на вадаёме, можна, маментальна аказаўшы першую медыцынскую дапамогу. Што рабіць?**

– калі вы маеце справу з «сінім» утапленнем (калі вада паспела патрапіць у лёгкія і страўнік), спачатку трэба пакласці пацярпелага жыватом на сваё сагнутае калена так, каб яго галава апынулася ўнізе. Гэта дазволіць ачысціць страўнік і лёгкія ад большай часткі вады;

-- калі ніякіх дыхальных рухаў і ванітавага рэфлексу пасля гэтага не з'явілася, трэба адразу прыступаць да сардэчна-лёгачнай рэанімацыі.

**Як зрабіць штучнае дыханне:**

-- пацярпеламу трэба задраць галаву і адкрыць рот (але пры траўме шыйнага аддзела хрыбетніка закідаць галаву нельга);

-- высунуць трохі наперад ніжнюю сківіцу пацярпелага, а язык прыціснуць пальцамі да ніжняй сківіцы;

-- рукой заціснуць нос пацярпелага і зрабіць два рэзкія ўдзіманні метадам «рот у рот». Калі падчас удыху адбываецца раздзіманне шчок, значыць, паветра ў лёгкія не трапляе.

**Як зрабіць закрыты масаж сэрца:**

-- закрыты масаж сэрца праводзіцца на 2--3 см вышэй мечападобнага атожылка грудзіны прамымі рукамі;

-- кожны наступны націск трэба праводзіць толькі пасля таго, як грудная клетка вернецца ў зыходнае становішча. Глыбіня прагіну грудзіны пры гэтым павінна складаць каля 4 см, а частата націску на грудную клетку -- 90--100 у хвіліну.

**Запомніце: суадносіны «вентыляцыя-масаж» пры правядзенні рэанімацыі -- 2:15.**



Выдаленне з вадкасці з лёгкіх, дыхальных шляхоў і страўніка пацярпелага.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

17 – 23 студзеня 2011 г.









нумар 166 дзённа й ночна

абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае»

ПП «Дарога на Вільню плюс», УНП 391053932

Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатняму тэлефону на нумар 166. Кругласутачна. Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 17 студзеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 02.00** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.55** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мой папа – Дед Мороз».
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05»Маруся»**
**12.10** Романтическая комедия **«Законы привлекательности»**
**14.05** Шоу «Вялікая розніца». Часть 1-я.
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 «Маршрут милосердия»**
**17.25»Маруся»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 02.15** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45** 68-я церемония вручения наград премии «Золотой глобус» за заслуги в области кинематографа за 2010 год (США).
**02.20** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила»**. Многосерийный фильм.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Морской патруль»**. Многосерийный фильм.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**17.05 «Слово женщине»**. Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**. Комедийный сериал.
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Голоса».
**22.10** Премьера. **«Капитан Гордеев»**.
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** «Обратный отсчет». Кухня по-советски. Испытание дефицитом».
**00.05** «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».
**00.55-01.15** Ночные новости.



**06.35 «Универ»** (Россия).
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»**
**09.05 «Ты моя жизнь»**
**10.05** Киноповесть **«Пока мы живы…»** («Беларусьфильм»).
**12.00** Пра мастацтва.
**12.25** Школа ремонта.
**13.20** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**13.40«Сила притяжения»**
**14.30** «Лабірынты гісторыі беларускага фотамастацтва». Часть 4-я.
**15.00** Мультсериал **«Семейка пиратов»** (Франция).
**15.25** Внеклассный час.
**15.40** Телебарометр.
**16.00 «Налетчики»** (Австралия).
**16.50** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»** (Великобритания).
**18.00** Мелодраматический сериал **«Ты моя жизнь»** (Аргентина).
**19.05** Фильм-катастрофа **«Экипаж»** (СССР). 1-я серия.
**20.40** Калыханка.
**20.55** Телебарометр.
**21.00** Белорусское времечко.
**22.00 «Интерны»**
**22.35** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**23.10** Овертайм.
**23.30** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.30 «Налетчики»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.30** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Карма. Расплата за грехи».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Алена Ланская против Вилли Токарева.
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30 «ДНЕВНИК КАМИКАДЗЕ»**. Россия, 2003г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ПОСЛЕДНИЙ ШАНС ХАРВИ»**.



**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Прэс-экспрэс
**07:45** Эксперт
**08:05** Моўнік (лінгвістычная праграма)
**08:20** ПраСвет
**08:45** Басанож па свеце : «Экспедыцыя да паляўнічых на галовы»
**09:10** Рэмарка
**09:30** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Еўфрасіння Полацкая»
**09:35** Фільматэка майстроў: **«Жэлары»**, маст. фільм, рэж. Ондржэй Троян
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:20** Эксперт
**12:40** Моўнік (лінгвістычная праграма)
**12:55** ПраСвет
**13:20** Басанож па свеце : «Экспедыцыя да паляўнічых на галовы»
**13:45** Рэмарка
**14:10** Гісторыя пад знакам Пагоні :«Еўфрасіння Полацкая»
**14:15** Фільматэка майстроў: « **Жэлары»**
**16:40** Канцэрт Алеся Камоцкага
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»**: 20 серыя
**17:30 «Час гонару»**: 12 серыя
**18:20** Невядомая Беларусь: «Гуканне вясны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь
**18:50** Госць «Белсату»
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**19:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, рэж. Вольга Нікалайчык, 2010 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55** Фільматэка майстроў: **«Жэлары»**
**00:15** Аб'ектыў
**00:40** Гарачы каментар

СЕРАДА, 17 студзеня

